ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 2 (64)

ЛЮТЫ 1938 г.



ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК 1938

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 2 (64)

ЛЮТЫ 1938 г.

ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК 1938



# ПАСТАНОВА

## Совета Народных Камісарау Саюза ССР № 2189

*Масква—Крэмль* *23 снежня 1937 г.*

**Аб зацверджанні справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў па самаабкладанню**

Совет Народных Камісарау Саюза ССР пастанаўляе:

У адпаведнасці з пастановай ЦВК СССР ад 11 верасня 1937 г. „Аб самаабкладанні сельскага насельніцтва“ зацвердзіць наступны перачань форм справаздачнасці сельскіх советаў і райвыканкомаў:

1. Дэкадную справаздачнасць сельскіх советаў аб паступленні самаабкладання (форма № 15).
2. Справаздача сельсоветаў аб выніках вылічэння самаабкладання ў 1937 г. (форма № 20-а).
3. Справаздача райвыканкомаў аб выніках вылічэння самаабкладання ў 1937 г. (форма № 54).

Нам. Старшыні СНК Саюза ССР **В. Чубар.**

Кіраўнік спраў СНК Саюза ССР **Н. Петрунічаў.**

# ЗАГАД № 29

## па Ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота БССР

*Ад 20 студзеня 1938 года*

У мэтах кантроля за правільным выкарыстаннем прызначаных на падрыхтоўку і правядзенне прадстаячага перапісу насельніцтва 1939 г. сродкаў, загадваю:

1. Выдаткаванне крэдытаў адпускаемых на падрыхтоўку і правядзенне перапісу насельніцтва 1939 года вытвараць выключна па прамому прызначэнню ў межах зацверджаных ЦУНГУ асігнаванняў.
2. Бухгалтэрыю УНГУ, нач. акр. УНГУ і гор(рай)інспектароў абавязваю з 1 студзеня г. г. весці спецыяльны ўчот выдаткаў па крэдытах перапісу па формах зацверджаных ЦУНГУ у дадатак к дзейнічаючай бухгалтарскай справаздачнасці.



3. Абавязаць начальніка Бюро перапісу і бухгалтэрыю УНГУ арганізаваць сістэматычны кантроль за правільным выдаткаваннем сродкаў, адпушчаных на перапіс насельніцтва, і пры рэвізіях райінспектур складваць асобныя акты аб выдаткаванні сродкаў на падрыхтоўку перапісу, прадстаўляючы копіі актаў у Бюро перапісу насельніцтва ЦУНГУ.

4. Папярэджваю ўсіх начальнікаў акр. упраўленняў і гор(рай)інспектароў наргасучота, што за спробу і вытрачэнне выдаткаў крэдытаў, адпушчаных на падрыхтоўку перапісу насельніцтва 1939 года, не па прамому прызначэнню віноўныя будуць прыцягнуты да суровай адказнасці аж да прыцягнення к суду.

Чва Нач. Упраўлення наргасучота БССР **Абудзееў**.

## ЗАГАД № 6

## па Ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота БССР

*Ад 4/I 1938 года*

Не гледзячы на папярэджанні уч. інспектару Бягомльскага раёна т. Радзіонаву, з боку нач. Лепельскага акруговага упраўлення НГУ аб невыкананні з яго боку заданняў, апошні пераломy ў рабоце не зрабіў.

За зрыў работы па вымярэнню бульбы ў мятруемых калгасах, за зрыў правільнай пастаноўкі ўчота ў калгасах і с/с, падгонка лічб у ўчоце будаўніцтва—участковага інспектара т. Радзіонава з работы зняць з 28/XII 1937 г.

Чва Нач. Упраўлення наргасучота БССР **Абудзееў**.

## ЗАГАД № 61

## па Народнаму камісарыяту асветы БССР

*гор. Менск, 2-га студзеня 1938 года*

Статыстычны ўчот у сістэме Наркомасветы мае каласальнейшае значэнне ў справе правільнага кіраўніцтва ўсёй сістэмай народнай асветы. Без своечасовых, правераных лічб, немагчыма чотка наладзіць работу Наркомасветы. Між тым, ворагі народа, пралезшыя ў Кіраўніцтва Наркомасветы і выкрытыя зараз органамі НКУС, свядома зры-

валі статыстычную работу, імкнучыся гэтым самым разваліць усю работу па народнай асвеце.

Аднак, трэба адзначыць, што многія загадчыкі рай(гор)АНА, яшчэ і зараз прытрымліваюцца поглядаў на статыстыку, як на справу другарадную. Так, многія рай(гор)АНА да гэтага часу не даслалі гадавых адчотаў па школах на канец 1936|37 навучальнага года, звестак аб выніках прыёму ў школы на пачатак 1937-38 навучальнага года і г. д. Напрыклад, Гомельскі райАНА наогул ніякіх справаздач на працягу 1937 года не даслаў. Касцюковіцкі райАНА. акрамя справаздач аб выдаткаванні фонда ў зарплаты ніякіх другіх статыстычных звестак не даслаў. Такая-ж карціна наглядаецца і па Слуцкаму райАНА. Лічачы гэтае становішча ненармальным, загадваю:

§ 1. За непрадстаўленне гадавых справаздач па школе за 1936-37 вучэбны год, звестак аб выніках прыёму на пачатак 1937-38 вучэбнага года, звесткі па ўчоту дзяцей, падлягаючых усеагульнаму навучанню, спіска школ і звестак аб выніках прыёму ў школы дарослых павышанага тыпу, загадчыку Касцюковіцкага райАНА т. Калюта абвясціць вымову і папярэдзіць, што ў выпадку непрысылкі ўказанай справаздачнасці да 15 студзеня 1938 г. ён будзе знят з работы і аддан пад суд, згодна пастановы ЦВК і СНК СССР за № 82|2530 ад 27 лістапада 1933 года.

§ 2. Слуцкі райАНА сістэматычна зрывае прадстаўленне статыстычнай справаздачнасці ў 1937 годзе і, ўлічваючы, што загадчык райАНА т. Бурак толькі нядаўна прызначана да гэту пасаду, аб'явіць ёй папярэджанне і прапанаваць ліквідаваць усю запазычанасць да 12 студзеня 1938 г.

§ 3. Гомельскі райАНА сістэматычна зрывае прадстаўленне статыстычнай справаздачнасці ў 1937 годзе. Улічваючы, што новы загадчык райАНА т. Школьнікаў толькі нядаўна прызначан на гэту пасаду, прапанаваць яму неадкладна да 15 студзеня ліквідаваць усю запазычанасць статаддзелу.

Папярэджваю, што ў выпадку неліквідацыі запазычанасці да гэтага тэрміну, у адносінах яго будуць прыняты самыя суровыя меры спагнання.

§ 4. Устанавіць, што за своечасовае прадстаўленне праверадых статыстычных справаздач нясуць персанальную адказнасць загадчыкі рай(гор)АНА.

5. Усім загадчыкам рай(гор)АНА ліквідаваць усю запазычанасць статаддзелу да 15 студзеня 1938 года.

Гэты загад давесці да ведама ўсіх загадчыкаў рай(гор) АНА.

Народны камісар асветы БССР Півавараў.

## Усім акруговым упраўленням і райінспектарам наргасучота БССР

У выкананне рашэння партыі і ўрада, пачынаючы з 10 студзеня, ўстанаўліваецца часовая пяцідзённая справаздачнасць па рамонту трактароў і матораў і, акрамя таго, з 20 студзеня пяцідзённая справаздачнасць падрыхтоўкі да веснавой сяўбы па наступных 5 паказчыках:

1. Наліччa ўсяго насення зернавых і бабовых.
2. У тым ліку каласавых.
3. Пратрыеравана.
4. Наліччa насення сартавых зернавых
5. У тым ліку атрыманых па міжкалгаснаму абмену.

Чва Начальніка Упраўлення наргасучота БССР
**Абудзееў.**

Начальнік Учотнай інспекцыі УНГУ БССР
**Магідаў.**

## Старшыням акр(рай)спажыўсаюзаў

Наша патрабаванне даслаць нам звесткі аб колькасці населеных пунктаў адмяняем.

Чва Старшыні Прэзідыума Праўлення
Белкаапсаюза **Гусакоў.**

# ДА ПЕРАПІСУ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

## Усім акр. і райінспектарам наргасучота

У часе інструктажа і правядзення падрыхтоўчых работ райінспектарамі высунут рад пытанняў, патрабуючых дадатковага тлумачэння. Ніжэй мы прыводзім рад адказаў на такія пытанні, для скарыстання пры інструктажы ўчастковых інспектароў.

1. П ы т а н н е. Ёсць прадпрыемствы, якія частку 1937 г. знаходзіліся ў адным падпарадкаванні, а другую частку ў падпарадкаванні другога ведамства, пры чым апошняе ведамства можа даць даныя аб рабоце гэтага прадпрыемства толькі на тую частку года, якую прадпрыемства ў яго знаходзілася—як тады запаўняць бланк?

А д к а з. У бланку на кожнае прадпрыемства абавязкова павінны быць звесткі за ўвесь перыяд яго работы ў 1937 г. Калі прадпрыемства знаходзілася ў падпарадка-

ванні ў 2-х ведамствах і апошняе ведамства не мае даных аб гэтым прадпрыемстве за перыяд знаходжання яго ў першага ведамства, то райінспектар наргасучота павінен запоўніць на гэта прадпрыемства 2 бланкі: адзін бланк запаўняецца па даных першага ведамства, а другі бланк па даных другога ведамства, а потым у райінспектуры складаецца адзін бланк на гэта прадпрыемства з данымі за ўвесь перыяд яго работы (на падставе 2-х бланкаў). Пры здачы матэрыяла ў УНГУ здаецца бланк, складзены інспектарам, і пры ім прыкладаюцца 2 бланкі, якія складзены ведамствамі.

2. Пытанне. Як будуць перапісвацца прадпрыемствы прамысловай і лясной каапераціі (арцелі)?

Адказ. Спецыяльныя бланкі перапісу на прадпрыемствы промарцелей запаўняюцца толькі на друкарні (форма №3), млыны, крупарушкі і маслабойкі (форма № 2). Усе астатнія прадпрыемствы прамысловай і лясной кааперацыі не перапісваюцца і матэрыял па іх будзе ўзят з гадавой справаздачы.

3. Пытанне. Ці патрэбна перапісваць прадпрыемствы, якія ў 1937 г. працавалі, але к канцу года былі ліквідаваны (ці згарэлі).

Адказ. Калі прадпрыемства частку года працавала, а к канцу года было ліквідавана, то значыць на прадпрыемстве працавалі рабочыя і яны стварылі на якую-та сумму прадукцыю. Вынікі работы гэтага прадпрыемства трэба ўлічыць. Даныя трэба атрымаць у той арганізацыі, якая правадзіла ліквідацыю. Калі-ж гэта арганізацыя знаходзіцца за межамі раёна і ў раёне ніякіх даных аб рабоце гэтага прадпрыемства не асталося, то трэба паведаміць у УНГУ аб гэтым прадпрыемстве (паказаўшы падрабязны адрас, род прадпрыемства і арганізацыю, якой прадпрыемства было падпарадкавана) для прыняцця мер па запаўненню бланка там, дзе знаходзіцца арганізацыя ліквідаваўшая гэта прадыемства.

Толькі ў выключных выпадках, калі ліквідавана дробнае прадпрыемства і ніякіх даных сабраць немагчыма, то яго можна і не перапісваць.

4. Пытанне. Як перапісваць камбінаты? Ці складаць адзін бланк на ўвесь камбінат, ці на кожную асобную вытворчасць камбіната складаць асобны бланк?

Адказ. Кожная асобная вытворчасць камбіната перапісваецца на асобны бланк. Калі, напрыклад, камбінат складаецца з млына, электрастанцыі, лесапілкі, сукнавалкі, то на кожную з іх складаецца адпаведны бланк: электрастанцыя, лесапілка і сукнавалка перапісваюцца па ф. № 1, а млын па ф. № 2. Маёмасць камбіната, агульнае для ўсіх вытворчасцей (будынак і інш.), праводзіцца па асноўнай

вытворчасці: сілавыя ўстаноўкі (рухавік і дынамо-машына) праводзяцца па электрастанцыі, а па астатніх бланках толькі паказваецца па якой вытворчасці прайшоў рухавік.

5. Пытанне. Ці будуць інспектуры наргасучота перапісваць прадпрыемствы НКШЗ?

Адказ. Прадпрыемствы НКШЗ будуць перапісвацца ў цэнтралізаваным парадку самім апаратам НКШЗ. Забеспячэнне бланкамі перапісу і інструктаж будзе вытваран промаддзелам УНГУ БССР. Райінспектуры ад перапісу прадпрыемстваў НКШЗ аслабаняюцца цалкам.

6. Пытанне. Калі прадпрыемства наркамацкай прамысловасці, прадстаўляючае гадавую справаздачу, вытварае лесанарыхтоўкі і нарыхтавала звыш 500 к/м драўніны і дроў, напрыклад, Аршанскі ільночасальны камбінат, то ці патрэбна запоўніць форму № 6 на гэтыя лесанарыхтоўкі.

Адказ. Форма № 6 запаўняецца на ўсе лесанарыхтоўкі, нарыхтаваўшыя 500 і больш к/м. Не запаўняюць форму № 6 толькі калгасы і арцелі лясной кааперацыі (у іх лесанарыхтоўкі праходзяць па гадавой справаздачы). Па ўсіх астатніх прадпрыемствах, уключаючы і прадстаўляючыя гадавую справаздачу наркамацкія прадпрыемствы, і прамысловую кааперацыю (БКПС), калі нарыхтоўкі склалі 500 і больш к/м, то форма № 6 павінна быць запоўнена.

7. Пытанне. Ці патрэбна ў бланках бяздзейнічаючых млыноў і крупарушак рабіць адзнакі аб прычынах бядзейнічання?

Адказ. Да, адзнаку аб прычынах бяздзейнічання ў бланку № 2 на бяздзейнічаючы млын трэба рабіць, выкарыстоўваючы для гэтага свабодныя месцы.

8. Пытанне. Ці ўсе прадпрыемствы павінны перапісвацца па формах №№ 1, 2, 3, 6, 7, 8?

Адказ. Асобная картка вышэйпаказаных форм складаецца не на ўсякае прадпрыемства. Падлягаюць перапісу па вышэйпаказаных формах усе прадпрыемствы, маючыя рухавік, незалежна ад ліку рабочых. Прадпрыемствы-ж, не маючыя рухавіка, перапісваюцца на асобныя формы ў тым выпадку, калі ў адным з месяцаў 1937 г. яны мелі тры і больш чалавека занятага персанала (уключаючы служачых, вучняў і працуючых на даму).

9. Пытанне. Калі трактар выкарыстоўваецца для сельгасработ, а таксама для работы ў якасці рухавіка ў млыне, ці трэба яго ўлічваць?

Адказ. Пры складанні карткі № 2 на гэты млын, трактар павінен быць улічан па раздзелу IV „Сілавая гаспадарка на 1|1 1938 г." па радку 4 „Іншыя рухавікі ўнутранага згарання".

10. П ы т а н н е. Калі ў адным памяшканні знаходзяцца млын і крупарушка, ці трэба складаць на іх асобныя бланкі?

А д к а з. Калі млын і крупарушка знаходзяцца ў адным памяшканні, тады на іх складаецца адзін бланк № 2.

11. П ы т а н н е. Калі калгас нарыхтаваў больш 500 к|м драўніны і дроў, то ці патрэбна яму запоўняць форму № 6?.

А д к а з. Лесанарыхтоўкі калгасаў праводзяцца толькі па ф. № 5. Калі калгас нарыхтаваў больш 500 к|м лесу, то форма № 6 на яго ўсе-ж не запаўняецца.

12. П ы т а н н е. Ці ўсе калгасныя кузні падлягаюць перапісу.

А д к а з. Калгасныя кузні, таксама як і астатнія калгасныя прадпрыемствы (сталярныя, млыны, крупарушкі, рыбалавецкія секцыі, лесанарыхтоўкі і г. д.) падлягаюць перапісу ўсе, нават незалежна ад таго бяздзейнічаюць яны ці працуюць.

Усе гэтыя калгасныя прадпрыемствы, незалежна ад ліку занятых у іх асоб, заносяцца ў спіс формы № 5, кожнае прадпрыемства абавязкова асобным радком. Пры чым, на тыя прадпрыемствы, якія маюць рухавік (ці працуюць ад рухавіка), а таксама прадпрыемствы, маючыя 3 і больш чалавека занятага персанала (рабочых, служачых і вучняў), апрача занясення ў спіс ф. № 5, патрэбна яшчэ скласці і асобныя бланкі адпаведнай формы №№ 1, 2, 7 ці 8. Лесанарыхтоўкі ў калгасах праводзяцца толькі па ф. № 5 і асобных бланкаў ф. № 6 на іх запаўняць не трэба.

13. П ы т а н н е. Ці будуць перапісаны адзіночкі-саматужнікі.

А д к а з. Адзіночкі-саматужнікі перапісу не падлягаюць. Перапісваецца толькі соцыялістычная прамысловасць. Трэба прасачыць, каб у калгасах не былі перапісаны саматужнікі, напрыклад, шорнікі, якія не з'яўляюцца членамі калгаса, ні наёмнымі рабочымі, а часта перасоўваюцца з калгаса ў калгас і рамантуюць збрую. Такія шорныя майстэрні перапісваць не трэба.

14. П ы т а н н е. Як падлічваць вытвараную электраэнергію у квт. па дробных электрастанцыях, калі на электрастанцыі шчотчыка няма?

А д к а з. Патрэбна сумесна з работнікамі электрастанцыі па маючыхся матэрыялах падлічыць точна колькі гадзін працавала электрастанцыя на працягу 1937 года. Потым падлічыць яе сярэднюю нагрузку на працягу года, т. е. працавала яна на поўную магутнасць ці не. Калі яна працавала не на поўную магутнасць, то якая магутнасць усе-ж выкарыстоўвалася. Пасля гэтага памножыць гэту сярэднюю фактычную нагрузку на лік гадзін работы электрастанцыі—атрымаем вытвараную электраэнергію.



15. Пытанне. Ці будзе ўстаноўлена якая-небудзь справаздача аб ходзе перапісу?

Адказ. Да, будзе. Кожны інспектар павінен будзе раз у дэкаду пасылаць паведамленне ў промаддзел аб ходзе перапісу 10, 20 лютага і 1 сакавіка. Бланкі паведамленняў райінспектара аб ходзе перапісу будуць высланы.

16. Пытанне. Калі павінен быць скончан перапіс і парадак здачы?

Адказ. У звязку з тым, што работа па перапісу жывёлы скончана значна раней чым прадугледжвалася і перапіс прамысловасці будзе пачат раней, неабходна ўсю работу скончыць к 1-му сакавіка. Аб прыёмцы матэрыяла паведамім. Прыёмку намячаецца пачаць з 25 лютага.

## Начальнікам акруговых кіраўніцтваў НГУ, усім раи(гор)інспектарам НГУ

## Арганізацыйны план складання і прадстаўлення у УНГУ БССР гадавой адчотнасці па комунальнай гаспадарцы сістэмы НКГаса за 1937 год

### А. ПА ГАРАДАХ

### I. Круг прадпрыемстваў, падлягаючых ахопу гадавой адчотнасцю

Ахопу гадавой адчотнасцю па эксплаатацыі падлягаюць наступныя комунальныя гаспадаркі, знаходзячыяся ў веданні комунальных органаў па усіх гарадах.

1. Гарадскія землі
2. Зялёныя масівы і насаджэнні
3. Вулічнае асвятленне
4. Дарожна-маставая гаспадарка
5. Трамвай
6. Аўтобусныя зносіны
7. Аўтагрузтранспарт
8. Таксаматоры
9. Гужавы транспарт
10. Вадаправод
11. Каналізацыя
12. Ачыстка горада
13. Лазні (санпрапускнікі)
15. Пральні
15. Электрастанцыі і электрасець.
16. Гасцініцы
17. Жылгаспадарка

### II. Парадак складання і прадстаўлення гадавых адчотаў у гарадах

Пярвічныя адчоты складаюцца комунальнымі прадпрыемствамі і трэстамі і прадстаўляюцца ў гаркомгасы. Апошнія правяраюць іх, складаюць зводныя адчоты і пасля зацверджан-

ня на балансавай камісіі прадстаўляюць усе матэрыялы ў Наркомгас БССР. Копіі ўсіх статыстычных адчотаў гаркомгасы прадстаўляюць інспектару наргасучота (бухгалтарскія адчоты прадпрыемстваў інспектару не прадстаўляюцца).

У гарадах не маючых гаркомгасаў гадавыя адчоты прадстаўляюцца ў Наркомгас БССР непасрэдна комунальнымі трэстамі і прадпрыемствамі. Копіі статыстычных адчотаў прадпрыемствы і трэсты гэтых гарадоў прадстаўляюць інспектару наргасучота.

## Інспектуры наргасучота абавязаны:

1. Прасачыць за своечасовым складаннем горкомгасам і комунальнымі прадпрыемствамі гадавых адчотаў (статыстычных і бухгалтарскіх), адпраўкай іх у Наркомгас БССР, і прадстаўленнем у інспектуру НГУ статыстычных адчотаў на ўсе маючыеся ў горадзе комунальныя прадпрыемствы, падлягаючыя ахопу гадавой адчотнасцю (гл. пералік галін комунальнай гаспадаркі у раздз. I оргплана).

Ў выпадках несвоечасовага складання адчотаў асобнымі прадпрыемствамі неадкладна прымаюцца неабходныя меры ўздзейнічання праз прэзідыум горсовета або райвыканкома.

2. Рэгулярна (адзін раз у дэкаду) інфарміраваць УНГУ аб ходзе гадавой адчотнай кампаніі па комунальнай гаспадарцы.

3. Праверыць правільнасць складання кожнага прадстаўленага гаркомгасам статыстычнага адчота, звярнуўшы пры гэтым увагу на наступнае:

а) Запаўненне адчота па ўсіх паказчыках, падлягаючых запаўненню ў тых адзінках вымярэння, якія патрабуюцца адчотам.

б) Запаўненне адчота па фінансавых паказчыках (асноўныя сродкі і знос асноўных сродкаў, даходы і расходы).

в) Параўнанні адчотных даных за 1937 г. з адчотнымі данымі 1936 года.

г) Подпісы адчота дырэктарам прадпрыемства, галоўным бухгалтарам і візай гаркомгаса аб праверцы адчота.

4. Пасля праверкі і выпраўлення, накіроўваць арыгінал прадстаўленых гаркомгасам статыстычных адчотаў у УНГУ БССР. Копіі адпраўленых адчотаў астаюцца ў інспектары наргасучота.

## III. Тэрміны прадстаўлення гадавых адчотаў

а) Прадпрыемствы прадстаўляюць адчот гаркомгасу не пазней 1 II 1938 г. (Згодна загада НККомгаса).

б) гаркомгасы—Наркомгасу і Інспектуры наргасучота не пазней 15/II 1938 г.

в) Інспектура наргасучота—УНГУ БССР не пазней 25/II 1938 г.

## IV. Інструментарый гадавой адчотнасці комунальнай гаспадаркі

1. Статыстычная адчотнасць:

а) Пярвічныя адчоты—формы па асобных галінах комунальнай гаспадаркі, зацверджаныя Наркомгасам і УНГУ БССР, на падставе саюзных паказчыкаў і тыпавых форм ЦУНГУ:

2. Бухгалтарская адчотнасць:

а) Пярвічныя адчоты—формы 1-27, зацвержаныя Наркамфінам СССР для комунальнай сістэмы.

Па рабочых пасёлкам, паселішчах гарадскога тыпу, а таксама па райцэнтру, з'яўляючымся сельскім паселішчам гадавыя адчоты складаюцца па форме РВК № 99 па кароткай праграме паказчыкаў.

**Інспектуры наргасучота абавязаны:**

Прасачыць за своечасовым запаўненнем гэтай формы, праверыць правільнасць складання формы і пасля праверкі адаслаць экземпляр прадстаўлены РВК у УНГУ БССР.

Усімі формамі гадавой справаздачнасці прадпрыемствы, трэсты і гаркомгасы забяспечваюцца Наркомгасам БССР.

Нам. Нач. УНГУ БССР **Шындлер.**

# ІНСТРУКЦЫЯ

## па ўчоту механічнага руху насельніцтва для раённых і гарадскіх інспектароў наргасучота на 1938 г.

1. Учот руху насельніцтва вядзецца ва ўсіх пашпартызаваных пунктах раёна.

Рэгістрацыя прыбыўшага насельніцтва вытвараецца пашпартнымі аддзеламі НКУС ва ўсіх гарадах, рабочых пасёлках, іншых паселішчах гарадскога тыпу і ва ўсіх сельсоветах, дзе праведзена пашпартызацыя.

2. Рай(гор)інспектар не пазней 3 га чысла наступнага за справаздачным месяца атрымоўвае ад пашпартных аддзелаў адрыўныя талоны прапіскі „П" і выпіскі „В", падвяргае іх дэталёваму кантролю, звяртаючы асаблівую ўвагу на тое, каб на ўсе пастаўленныя пытанні ў талонах былі дадзены вычарпальныя адказы.

Талоны, у якіх выяўлены дэфекты, неадкладна зварачваюцца пашпартному аддзелу для выпраўлення.

3. У тых выпадках, калі якасць запаўнення адрыўных талонаў дрэнная, дазваляецца гор(рай)інспектару атрымліваць адрыўныя талоны з пашпартных аддзелаў адзін раз у пяцідзёнку і правяраць у той-жа дзень і дэфектныя талоны зварачваць для выпраўлення пашпартнаму аддзелу.

4. Пасля праверкі правільнасці запаўнення адрыўных талонаў і выпраўлення ўсіх выяўленых недахопаў рай(гор)інспектар прыступае да скарочанай іх распрацоўкі па ф. „А".

5. Распрацоўка вытвараецца наступным чынам:

а) усе адрыўныя талоны раскладваюцца па масівах (пунктам—город, райцэнтр, сельская мясцовасць) распрацоўкі.

Ітогі разпрацоўкі па вышэйпаказаных пунктам запісваюцца ў ф. „А" асобнымі радкамі:

б) адрыўныя талоны кожнага масіва распрацоўкі падзяляюцца на дзве групы:

1) група прыбыўшых „П" і 2) група выбыўшых „В".

в) Кожная група ў паасобку раскладаецца на чатыры пачкі.

У першую пачку, з групы прыбыўшых, адкладваюцца адрыўныя талоны на прыбыўшых з-за меж данага пункта К прыбыўшым з-за меж пункта належыць аднасіць не толькі прыбыўшых з іншых раёнаў, але таксама і перасоўванне унутры раёна (пераезд з аднаго сельсовета ў другі, з сельсовета ў райцэнтр ці горад і наадварот).

У другую пачку адкладваюцца талоны прапіскі на асоб, перамяніўшых адрас унутры пункта (пераезд з адной кватэры на другую).

К трэцяй пачцы адносяцца тыя адрыўныя талоны, ў якіх не ўказана прыбылі асобы з-за меж данага пункта ці перамянілі яны адрас унутры пункта.

К чацвертай пачцы трэба адносіць талоны прапіскі на асоб, перамяніўшых прозвішча ці пашпарт, і асоб, дасягнуўшых 16-гадовага ўзросту і ў пяршыню атрымаўшых пашпарт.

г) Група талонаў выпіскі раскладваецца таксама, як і група прапіскі. У першым выпадку вытваралася групіроўка талонаў на прыбыўшае насельніцтва, ў другім выпадку на выбыўшае.

6. Пасля раскладкі талонаў на пачкі вытвараецца падлік насельніцтва ў I, II і III пачках, падлічваецца асобна дарослае насельніцтва (і запісваецца ў форму „А" гр. гр. 1, 4. 7, 11, 14 і 17) і асобна дзяцей да 16-гадовага ўзросту (і запісваецца ў ф. „А" гр. гр. 2, 5, 8, 12, 15, 18).

У IV пачцы вытвараецца агульны падлік без падраздзялення на дзяцей і дарослых.

7. Форма „А" складаецца ў адным экземпляры і разам з усімі адрыўнымі талонамі, складзеным у такім выглядзе, у якім вытваралася па іх распрацоўка ў РІНГУ прадстаўляецца ў адзел насельніцтва УНГУ БССР не пазней 8-га чысла наступнага за справаздачным месяца.

8. Даныя з ф. „А" рай(гор)інспектурай пераносяцца ў „картку перасоўвання насельніцтва", якая захоўваецца ў РІНГУ на працягу ўсяго часу і з'яўляецца копіяй з ф. „А".

Нам. Нач. Упраўлення наргасучота БССР **Шындлер.**

В. а. Начальніка аддзела ўчота насельн.
і аховы здароўя УНГУ БССР **Астапчук.**

## ВЫПІСКА З ПАСТАНОВЫ

### прэзідыума Лагойскага РВК ад 15/І 1938 года

Надаючы велізарнае палітычнае і народна-гаспадарчае значэнне прадстаячаму перапісу насельніцтва ў 1939 годзе ў мэтах своечасовай і добрай падрыхтоўкі да перапісу, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Улічваючы, што адным з важных мерапрыемстваў у справе падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва з'яўляецца своечасовае і добраякаснае завядзенне пагаспадарчых кніг сельсовецкага ўчота на 1938 год, абавязаць с/советы да 1 лютага 1938 года закончыць завядзенне такавых.

2. Устанавіць, што завядзенне пагаспадарчых кніг праводзіцца асабіста сакратарамі с/советаў шляхам суцэльнага абходу двароў у тэрытарыяльным парадку.

Старшыні с/советаў абавязаны стварыць належныя ўмовы працы сакратарам, с/советаў як-то, забяспечыць транспартам, не адрываць на іншыя работы і г. д.

3. Абавязаць раённую і ўчастковую інспектуру наргасучота правесці і да 1 лютага 1938 года закончыць складанне спісаў населеных месц шляхам суцэльнага абходу ўсіх паселішч.

4. Абавязаць старшынь с-советаў выдзеліць у дапамогу ўчастковым інспектарам наргасучота, на час складання спісаў населеных месц, членаў с-советаў добра знаючых мясцовасць свайго с-совета, а таксама забяспечыць участковых інспектароў наргасучота сродкамі перасоўвання як па тэрыторыі с-совета, так з с-совета ў с-совет.

5. Перыядычна заслухоўваць на прэзідыуме РВК старшынь с-советаў аб ходзе работы па завядзенню пагаспадарчых кніг на 1938 год.

Старшыня РВК **Кажарскі.**

Сакратар РВК **Гілевіч.**

# ПАСТАНОВА

## прэзідыума Мазырскага акруговага выканаўчага камітэта

*Ад 22 снежня 1937 г.*

### Аб завядзенні пярвічнага ўчотаў с-сов. на 1938 г.

Надаючы палітычнае значэнне своечасоваму і правільнаму вядзенню первічнага ўчота ў сельскіх советах, улічваючы меўшыя месца безадказныя адносіны да вядзення пярвічнага ўчота, выяўленых пры складанні спісаў выбаршчыкаў па Юравіцкаму, Бяразоўскаму сельсоветах Мазырскага раёна, Холмянскаму, Кабыльшчанскаму, Азарыцкаму сельсоветах, Даманавіцкага раёна, і Бароўскаму сельсовету, Лельчыцкага раёна, пярвічны ўчот вёўся з рук вон дрэнна, старшыні і сакратары гэтых сельсоветаў гэтай выключнай справе належнай увагі не ўдзялялі, выходзячы з чаго прэзідыум Мазырскага акрвыканкома пастанаўляе:

1. Ававязаць старшынь райвыканкомаў па атрыманні кніг і бланкаў пярвічнага ўчота ў сельсоветах на 1938 г. неадкладна склікаць раённую нараду сакратароў сельсоветаў і вытварыць самы дасканальны інструктаж па завядзенню кніг пярвічнага ўчота на 1938-39 г.

2. Прапанаваць старшыням і сакратарам сельсоветаў пад іх асабістую адказнасць завесці кнігі і формы пярвічнага ўчота ў тэрміны і парадкам у адпаведнасці з указаннямі інструкцыі па вядзенню пярвічнага ўчота ў сельскіх советах.

3. Абавязаць райвыканкомы і раённых інспектароў наргасучота перыядычна інструктаваць сельскія советы па пастаноўцы пярвічнага ўчота і сістэматычна наглядаць за яго правільным вядзеннем, не дапускаючы ні малейшага парушэння вядзення пярвічнага ўчота.

4. Ускласці абавязкі на раённых інспектароў наргасучота даводзіць неадкладна да ведама прэзідыума райвыканкома аб малейшых парушэннях вядзення пярвічнага ўчота ў сельсоветах, для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

5. Арганізацыю і кіраўніцтва па завядзення пярвічнага ўчота ў сельсоветах акругі ўскласці на акруговае кіраўніцтва наргасучота.

Старшыня Мазырскага АВК **Раманенка.**

Сакратар **Татараў.**

## ВЫПІСКА

### з пратакола пасяджэння прэзідыума Нараўлянскага райвыканкома

*ад 31|XII-1937 г.*

Слухалі:

Аб завядзенні пярвічнага ўчота ў с|с на 1938 г. (райінспектар НГУ Сцяпанаў)

Пастанавілі:

Прыняць да ведама райінспектара НГУ тав. Сцяпанава, што пагаспадарчыя кнігі пярвічнага с-с учота інспектурай НГУ поўнасцю атрыманы 29|XII 1937 года, прашнураваны, прапячатаны і падпісаны сакратаром РВК.

2. У сувязі з тым, што амаль усе сакратары с-с мабілізаваны старшымі шчотчыкамі па перапісу жывелы з 1—8 студзеня 1938 года, прапанаваць інспектару НГУ т. Сцяпанаву склікаць 2-дзённую інструкцыйную нараду сакратароў с-с раёна з 9—11 студзеня 1938 г. аб завядзенні пагаспадарчых кніг пярвічнага с-с учота на 1938 год.

3. Прапанаваць усім старшыням с-с пад іх асабістую адказнасць забяспечыць яўку 9-га студзеня 1938 года к 10-ці гадзінам раніцы ў райінспектуру НГУ сакратароў с-с.

4. Надаючы палітычнае значэнне своечасоваму і правільнаму вядзенню пярвічнага ўчота ў с-с, улічыўшы меўшыя месца безадказныя адносіны да вядзення пярвічнага ўчота Вербавіцкім, Галоўчыцкім і Дзямідаўскім с-с, дзе пярвічны ўчот вёўся дрэнна, абавязаць старшынь і сакратароў указаных с-с, а таксама ўчастковага інспектара НГУ т. Логвіна прыняць самыя рашучыя меры да своечасовага і добраякаснага вядзення пярвічнага ўчота, папярэдзіць старшынь і сакратароў с-с, што за зрыў завядзення пагаспадарчых кніг і за дрэнны ўчот віноўныя будуць прыцягвацца да самых суровых спагнанняў.

## ВЫПІСКА

### з пратакола пасяджэння прэзідыума Уваравіцкага райвыканкома

*ад 17 студзеня 1938 года*

Слухалі:

Аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва ў 1939 годзе.

Дакладвае інспектар Наргасучота т. Кудрыцкі.

